


ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 20 (99) — Нядзеля 18 травена 1952 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# У цэнтры увагі — Нямеччына

Ад некалькіх ужо год галоўным пунктам канфлікту ў халоднай вайне на эўрапэйскім кантынэнце зьяўляецца Нямеччына. Але ніколі яшчэ дагэтуль, навет і падчас бэрлінскае блякады, напружаньне між Усходам і Захадам з прычыны Нямеччыны не даходзіла да такой ступені, як апошнімі тыднямі, калі халодная вайна на нямецкім адрэзку дасягнула найвышэйшага пункту. Яна ўвайшла ўжо ў такую фазу, якая мусіць прывесьці да нейкага канчальнага разьвязаньня ўсей нямецкай праблемы.

Дык прыгледзімся бліжэй да найважнейшых выпадкаў, што разыгрываюцца цяпер у Нямеччыне й вакол Нямеччыны.

### НАПЯРЭДАДНІ ГЕНЭРАЛЬНАГА ДАГАВОРУ

Ужо закончыліся перагаворы прадстаўнікоў ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі з урадам саюзнай нямецкай рэспублікі ў Бон над узгадненьнем некаторых спрэчных пунктаў даўно прыгатаўлянага генэральнага дагавору ўспомненых дзяржаваў з Заходняй Нямеччынай, які гэтымі днямі будзе афіцыяльна падпісаны. Гэты дагавор мае быць для Захаду ўкаранаваньнем ягонай акцыі ў кірунку прыраўнаньня Нямеччыне поўнага сувэрэнітэту й раўнапраўнага сяброўства ў сям'і вольных народаў Захаду ўзамен за ўваход Нямеччыны ў сыстэму заходняэўрапэскай абароны й выстаўленьне собскіх дывізыяў для эўрапэйскай арміі.

Ужо ў першым артыкуле праекту генэральнага дагавору гаворыцца, што саюзная нямецкая рэспубліка «атрымлівае поўны сувэрэнітэт ува ўсіх нутраных і вонкавых дачыненьнях краіны». У залежнасьці ад гэтага з уваходам у сілу дагавору заходнія дзяржавы адклічаць свой акупацыйны статут, які даваў ім права ўмешвацца ў нутраныя справы Нямеччыны, а раўначасна з гэтым Высокая Альянцкая Камісыя й урады краёвых камісараў Нямеччыны будуць разьвязаныя. Будучыя ўзаемадачыненьні заходніх альянтаў зь Нямеччынай будуць рэгулявацца за пасярэдніцтвам звычайных пасольстваў і консулятаў.

Тры заходнія дзяржавы затрымліваюць за сабой тыя толькі правы, якія, з гледзішча на сваяасаблівасьць міжнароднага палажэньня Нямеччыны й супольныя інтарэсы ўсіх чатырох партнэраў, зьяўляюцца сяньня яшчэ неабходнымі. Гэтыя правы датычаць стацыянаваньня ў Нямеччыне заходніх збройных сілаў і загарантваньня іхнай бясьпечнасьці, а таксама датычаць Бэрліна й пытаньняў усей Нямеччыны, як цэласьці. Узамен за гэта Нямеччына забавязваецца весьці сваю палітыку згодна з прынцыпамі Задзіночаных Нацыяў і згодна мэтаў, прадугледжаных у статуце Эўрапэйскай Рады. Далей, нямецкая саюзная рэспубліка забавязваецца «прыняць удзел у эўрапэйскай абароннай супольнасьці з мэтаю нясеньня супольнае абароны».

### ПЕРАСТРЭЛКА ДЫПЛЯМАТЫЧНЫМІ НОТАМІ

Ня трэба й даказваць, што такое разьвязаньне Захадам нямецкага пытаньня зьяўляецца для Масквы вельмі нявыгадным. Уключэньне Нямеччыны ў заходняэўрапэйскую абаронную сыстэму зь ейным вайсковым і гаспадарскім патэнцыялам значна зьменіць суадносіны сілаў на некарысьць Саветаў. Бальшавікі за ўсякую цану хацелі-б, калі не перацягнуць Заходняй Нямеччыны на свой бок, дык прынамсі яе зьнэўтралізаваць і гэтым самым абясшкодзіць.

Таму яшчэ 10 сакавіка яны пераслалі тром заходнім дзяржавам сваю ноту ў гэтай справе, якая нарабіла шмат шуму. У сваей ноце Крэмль выступіў з праектам скліканьня супольнай канфэрэнцыі для заключэньня мірнай умовы зь Нямеччынай у той час, калі на працягу ўсяго дасюлешняга часу падобныя праекты Захаду былі ім сыстэматычна ігнараваныя. Да ноты быў прыложаны праект дагавору з зазначэньнем, што ён мусіць быць апрацаваны ў канчальнай форме з удзелам агульнанямецкага ўраду. Гэты праект прадбачваў, што Нямеччына павінна стацца задзіночанай незалежнай дзяржавай і што не пазьней, як за год пасьля ўправамоцненьня мірнага даговору, зь Нямеччыны павінны быць выведзеныя ўсе акупацыйныя войскі й зьліквідаваныя ўсе іхныя абаронныя пункты. На месца гэтага, Нямеччына атрымлівае права мець собскую армію й сваю ваенную прамысловасьць. Згодна гэтага праекту, Нямеччына павінна быць нэўтральнай і не ўваходзіць у ніякія саюзы зь іншымі дзяржавамі, варожыя для дзяржаваў, што знаходзіліся зь ей у стане вайны. Што датычыцца тэрыторыі Нямеччыны, дык у ноце ўспаміналася, што яна павінна замыкацца ў межах, вызначаных на Потсдамскай канфэрэнцыі (лінія Одра-Ніса).

На гэтую прапазыцыю Крамля заходнія дзяржавы адказалі сваей нотай, якая 26 сакавіка была перададзеная савецкаму ўраду. У ноце было сказана, што заключэньне мірнага дагавору мусіць быць папярэджанае правядзеньнем свабодных агульнанямецкіх выбараў пад кантроляй Задзіночаных Нацыяў і стварэньнем агульнанямецкага ўраду. Далей заходнія дзяржавы занялі становішча, што нямецкі ўрад перад, як і пасьля заключэньня мірнага дагавору павінен мець права заключаць міжнародныя саюзы, адказваючыя прынцыпам і мэтам ЗН. У справе нямецкай тэрыторыі ў ноце было заяўлена, што на Потсдамскай канфэрэнцыі ня былі канчальна ўстаноўленыя нямецкія граніцы й што пытаньне гэтае было пакінутае для канчальнага вырашэньня мірнай канфэрэнцыяй. Напасьледак нота адкідала савецкі праект стварэньня нямецкіх наземных, лётніцкіх і морскіх збройных сілаў, як супярэчны з палітыкай эўрапэйскага адзінства й супольнай абароны перад агрэсыяй.

Яшчэ не замоўклі камэнтаваньні абедзьвюх нотаў і высказваньні ў сувязі зь імі розных прыпушчэньняў і здагадак, як 9 красавіка Саветы выступілі з новай нотай да ўрадаў ЗША, Ангельшчыны й Францыі. Гэтая нота зьяўлялася фактычна паўтарэньнем тых патрабаваньняў, якія былі зьмешчаныя ў першай ноце з 10 сакавіка. Адзіным новым у ей пунктам было тое, што, адкінуўшы праект заходніх дзяржаваў нагляду над агульнанямецкімі выбарамі органаў ЗН, Крэмль высунуў свой контрапраект, паводля якога гэты нагляд праводзіла-б спэцыяльная камісыя, запрапанаваная чатырмя акупацыйнымі дзяржавамі.

У вадказ на гэта заходнія дзяржавы перадалі Савецкаму Саюзу 13 травеня сваю ноту, якая складаецца амаль выключна з адных толькі запытаньняў з мэтаю больш дакладанага высьненьня савецкіх прапановаў, зьмешчаных у іхных нотах.

### РЭАКЦЫЯ СЯРОД НЕМЦАЎ

Не падлягае найменшаму сумліву, што абедзьве савецкія ноты зьяўляюцца ня чым іншым, як толькі звычайным аружжам у ведзенай Савецкім Саюзам дыпляматычнай вайне з мэтаю зацягнуць падпісаньне генэральнага дагавору. Яны таксама разьлічаны й на прапагандовы сукцэс сярод насельніцтва Заходняй Нямеччыны, каб загнаць клін нязгоды й недаверу між ім і Захадам.

І трэба прызнаць, што абедзьве савецкія ноты на столькі хітра зрэдагаваныя, што яны ў значнай меры здэзарыентавалі немцаў. Яны напамінаюць немцам, што ўключэньне Заходняй Нямеччыны ў заходняэўрапэйскую абаронную супольнасьць варожыць для іх вайну за амэрыканскія інтарэсы, якой немцы, навучаныя горкім дасьветчаньнем, хочаць унікнуць за ўсякую цану, тады, калі захаваньне нэўтралітэту Нямеччыны, якое суліць Масква, гарантуе ей мір. Савецкі праект іграе таксама на нацыянальных пачуцьцях і амбіцыі нямецкага народу. Бо вось у той час, калі Захад, перадусім Амэрыка, хоча зрабіць Нямеччыну сваім васалям, уцягнуўшы яе ў арбіту сваей палітыкі, Масква вялікадушна гарантуе ей поўную незалежнасьць, у доказ чаго дамагаецца разбудовы собскай нямецкай арміі й нямецкага ваеннага промыслу. Гэтая апошняя прапанова трапіла асабліва да перакананьня былым нямецкім ваякам. Напасьледак савецкая нота дамагаецца задзіночаньня Нямеччыны й для звычайнага шэрага немца, што ня ўмее яшчэ разьбірацца ў бальшавіцкіх камбінацыях, дае надзею вызваленьня Ўсходняй Нямеччыны ад камуністычнай дыктатуры. Немцы яшчэ наіўна вераць, што пры свабодных выбарах камуністыя ў Усходняй Нямеччыне астануцца ў меншыні, а навет атрымаюць меней галасоў, чымсьці камуністыя ў сучаснай Францыі.

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Вісткі з шырокага сьвету

**АД РЭДАКЦЫІ: На зычэньне чытачоў уводзім, пачынаючы з гэтага нумару, аддзел п. н. «Вісткі з шырокага сьвету», у якім будзем коратка інфармаваць аб найважнейшых палітычных і ўсякіх іншых падзеях у сьвеце за кажны мінулы тыдзень.**

**«Радыё Вольнай Эўропы» для Польшчы.** 3 травеня «Радыё Вольнай Эўропы» ў Мюнхэне распачало свае польскія аўдыцыі п. н. «Голас Вольнай Польшчы». Гэтыя радыяперадачы, якія абыймаюць 15 гадзін дзенна й перадаюцца на кароткіх хвалях, з самага пачатку старанна заглушваюцца саветамі.

**За павялічэньне збройных сілаў Атлянтычнага Пакту.** Галоўная Гаспода Збройных Сілаў Атлянтычнага Пакту ў Парыжы ўважае, што ейныя збройныя сілы павінны быць павялічаныя ў выпадку, калі Савецкі Саюз павялічыць кантынгент сваіх войскаў у Ўсходняй Эўропе. Ад восені мінулага году савецкія акупацыйныя войскі ў Нямеччыне былі павялічаныя з 380.000 да 420.000 жаўнераў.

**Новы выбух атамнай бомбы.** 7 травеня ў ЗША, у штаце Невада, адбыўся новы пробны выбух атамнай бомбы. У Лёс-Анджэлес, аддаленым ад месца выбуху 250 міляў, быў заўважаны на небе блеск, які трываў частку сэкунды. Гэты раз ня быў гэта выбух атамнай бомбы, скінутай з самалёту, але эксплёзыя на вярху спэцыяльна збудаванай сталёвай вежы. Вежа пасьля выбуху зьнікла, а на ейным месцы стварыўся глыбокі кратар. Гэта быў пяты выбух у бягучым годзе ў ЗША й дваццаць дзевяты ад пачатку, дакананы амэрыканцамі.

**Заснаваньне Міжнароднага Саюзу Журналістых.** На Міжнародным Журналістычным Кангрэсе ў Бруксэлі нядаўна быў заснаваны новы Міжнародны Саюз Журналістых, які задзіночвае звыш 40.000 журналістых з 22 краінаў вольнага сьвету. Гэты Саюз Журналістых ёсьць фактычна аднаўленьнем Сусьветнага Саюзу Журналістых пасьля апанаваньня яго камуністымі.

**Увязьненьне амэрыканскага генэрала Ф. Дода.** Камуністычныя ваеннапалонныя на востраве Кое ў Карэі затрымалі ў характары закладніка амэрыканскага ген. Ф. Дода. Пасьля пратрыманьня некалькіх дзён, у суботу 9 травеня ген. Дод быў звольнены.

**Новы прэзыдэнт Індыі.** Індыйскі кангрэс выбраў на прэзыдэнта дзяржавы кандыдата кангрэсавай партыі Рарэндра Прасад. Пасьля яго найвялікшую колькасьць галасоў атрымаў кандыдат камуністых К. Т. Шах. Да выбараў стала пяць кандыдатаў.

**Першы самалёт на паўночным полюсе.** 3 травеня першы раз у гісторыі прызямліўся самалёт на геаграфічным паўночным полюсе. Быў гэта двухматорны амэрыканскі вайсковы самалёт тыпу «Дакота». Удзельнікі гэтага лёту затрымаліся на полюсе тры гадзіны й 10 мінут, пасьля чаго адляцелі на плаваючы востраў-крыгу Флегэр, аддаленую цяпер ад полюса 180 клм.

**Амэрыканская атамная гармата.** Міністар арміі Франк Пэйс паінфармаваў аб першых дэталях новай атамнай гарматы, вынайдзенай у ЗША. Новае аружжа можа паддзержываць акцыю вайсковых аддзелаў зь неспатыканай дагэтуль сілай і зьяўляецца незалежным ад кліматычных умоваў. Атамная гармата важыць 75 тонаў, можа парушацца ў прасторы, а на цьвёрдых дарогах дасягае шыбкасьці 55 кілямэтраў на гадзіну. Цэльнасьць адказвае звычайнай артылерыі, а на далейшую адлегласьць ёсьць навет лепшай.

**Найшыбчэйшы пасажырскі самалёт сьвету.** 2 травеня распачалася новая эра ў галіне камунікацыйнага лётніцтва, калі чатырохматорны пасажырскі самалёт тыпу «Камэта» брытанскіх лётніцкіх ліній «ВАОС» падняўся зь лёнданскага лётнішча да першага рэгулярнага падарожжа ў Паўдзённую Афрыку. Самалёт праляцеў 6.724 мілі да Ёганэсбурга ў Паўдзённай Афрыцы ў рэкордным часе 23 гадзін і 38 мінут. Сярэдняя шыбкасьць самалёту хісталася ў граніцах 480 міляў на гадзіну, даходзячы на адрэзку Рым—Бэйрут да 530 міляў.

**Новая перамога сэн. Тэфта.** На перадвыбарах у штаце Невада, якія адбыліся 9 травеня, было выбрана 12 рэспубліканскіх дэлегатаў на партыйную канвэнцыю дзеля выстаўленьня кандыдата на прэзыдэнта ЗША. Спасярод гэтых дэлегатаў сем зьяўляюцца прыхільнікамі сэн. Тэфта, два ген. Айзэнгаўэра, а астальныя тры дагэтуль не задэкляравалі, за якога кандыдата на прэзыдэнта будуць галасаваць на партыйнай канвэнцыі.

**35-ты Інтэрнацыянальны Эўхарыстычны Кангрэс.** 27 травеня сёлета распачнецца ў Барцэлёне 35-ты Інтэрнацыянальны Эўхарыстычны Кангрэс. Аб сваім удзеле ў гэтым кангрэсе заявілі 17 кардыналаў, каля 300 арцыбіскупаў і біскупаў і 15.000 ксяндзоў з розных краінаў сьвету. Каля 300.000 пілігрымаў мае наведаць кангрэс.

**Небясьпечны 1954 год.** Шэф генэральнага штабу ўсіх амэрыканскіх збройных сілаў, Омар Брэдлі, заявіў, што 1954 год, з гледзішча на разьвіцьцё савецкай ваеннай машыны, будзе найбольш небясьпечным для ЗША.

**Самалёт з фантастычнай шыбкасьцю.** Спэцыялістыя аэранаўтыкі ў Вашынгтоне цьвердзяць, што цяпер будуецца ў тайніцы новы тып самалётаў, якія будуць магчы разьвіваць шыбкасьць да 4.000 кілямэтраў на гадзіну.

**«Народная» пазыка ў СССР.** Рада міністраў СССР выпусьціла 5 травеня новую пазыку ў суме 30 мільярдаў рублёў на час 20 гадоў. Пазыка прызначаная на «разьвіцьцё нацыянальнай эканомікі» й галоўна на «фінансаваньне вялікіх будоўляў камунізму ў СССР», г. зн. на будову гідраэлектрастанцыяў і каналаў.

**Парафаваньне дагавору аб эўрапэйскай арміі.** 8 травеня ў Парыжы прадстаўнікі 6 дзяржаваў (Францыі, Італіі, Нямеччыны, Галяндыі Бэльгіі й Люксэмбургу) парафавалі трактат аб эўрапэйскай абароннай супольнасьці. Парафаваньне трактату абазначае, што спэцыялістыя закончылі сваю працу, распачатую 15 лютага 1951 г. У трактаце брадбачана стварэньне 43 дывізыяў (Францыя 14, Нямеччына 12, Італія 11, а краіны Бэнэлюксу 6). Эўрапэйскія збройныя сілы будуць аддадзеныя ў распараджэньне галоўнага камандаваньня збройных сілаў Атлянтычнага Пакту, а ў выпадку вайны будуць непасрэдна яму падпарадкаваныя.

**Сэсыя камінформу ў Маскве.** У першай палавіне травеня адбывалася ў Маскве чарговая сэсыя камінформу. Галоўнай мэтай сэсыі мела быць прыгатаваньне да чарговай канфэрэнцыі міністраў замежных справаў савецкага блёку, якая адбудзецца пасьля падпісаньня генэральнага дагавору заходніх дзяржаваў зь Нямеччынай. Таксама на канфэрэнцыі была абгаварваная справа тварэньня ўсходнянямецкай арміі й прыняцьця да савецкага блёку Ўсходняй Нямеччыны.

**Страты камуністых у Карэі.** Штаб наземнай арміі ЗША аблічыў страты камуністых ад пачатку Карэйскай вайны (чэрвень 1950 г. да 29 красавіка 1952 г.) на 1,683.545 жаўнераў. У вапошніх двух тыднях камуністыя страцілі 17.476 чалавек.

# *Ці пагражае вайна?*

Што за дзіўнае пытаньне? — падумае нехта. У той час, калі ўжо блізка два гады вядзецца вайна на палёх Карэі, у якой бяруць удзел дзяржавы чуць ня ўсіх частак сьвету й таму надаюць ей сусьветны характар, мы, быццам гэтага ня бачучы, ставім такое недарэчнае пытаньне. Згода! Але карэйскай вайны, ня гледзячы на заангажаваньне ў ей цэлага раду дзяржаваў, яшчэ сусьветнай назваць нельга, паколькі яна разьвіваецца на абмежаванай тэрыторыі аднэй краіны, так як сусьветнай вайной нельга было назваць вайны гішпанскай, хоць у ей, апрача гішпанцаў, прыймалі ўдзел, праўда неафіцыйны, і іншыя дзяржавы.

Затое зьяўляецца бясспрэчным, што так як дамашняя вайна гішпанская была пралёгам да другой сусьветнай вайны ў сьцісьлым значэньні гэтага слова, такім самым, ды яшчэ й большым, пралёгам да трэйцяй сусьветнай вайны зьяўляецца вайна карэйская.

Сусьветнае напружаньне між Усходам і Захадам за апошнія гады то завастралася, то паслаблялася ў залежнасьці ад таго, якая тактыка на дадзеным этапе найбольш выгаднай аказвалася для Крамля. Ня Захад, але выключна Крэмль у сяньняшняй халоднай і гарачай вайне трымае ў сваіх руках ініцыятыву. Гэта выплывае з факту, што камуністыя зьяўляюцца стараной афэнзыўнай, наступальнай, агрэсыўнай, тады, калі Захад заўсёды займае пазыцыю дэфэнзыўную, абаронную, міралюбную. Але ад заканчэньня апошняй сусьветнай вайны напружаньне між Захадам і Ўсходам не даходзіла яшчэ да такога высокага пункту, як мы гэта можам назіраць сяньня. У сучасны момант канфлікт між двума варожымі сьветамі прыняў такія вялізарныя разьмеры, што, здаецца, няма ўжо павароту назад, а найбольш праўдападобным і няўхільным выхадам з заіснаваўшага палажэньня, здаецца, можа быць толькі трэйцяя сусьветная вайна ў вышэй азначаным намі разуменьні.

Існуюць сяньня два запальныя пункты ў сьвеце, што гэтую вайну могуць непасрэдна справакаваць — адзін у Азыі, другі ў Эўропе. Пасьля дзесяцімесячнай канфэрэнцыі надзеі на перамір'е ў Карэі зьменшыліся бадай што да нуля й у Вашынгтоне зусім ужо паважна лічацца зь неабходнасьцю іх сарваньня. Калі-ж да гэтага дойдзе, дык не астанецца Амэрыцы нічога іншага, як, за калішнім плянам Мэк Артура, дзеіць станоўча й заатакаваць чырвоны Кітай. Такія пагляды ўжо ад даўжэйшага часу насьпяваюць сярод урадавых колаў ЗША, а цяпер становяцца яны зусім актуальнымі. Заступнік міністра абароны ЗША Вільям Фостэр 8 травеня заявіў, што ў Вашынгтоне дыскутуюцца пляны марское блякады кітайскага пабярэжжа й заатакаваньня самога Кітаю ў выпадку, калі перагаворы аб перамір'і сарвуцца.

Запальным пунктам у Эўропе зьяўляецца, як ведама, Нямеччына, аб чым мы шырака пішам на іншым месцы. Таму зьвернем тут увагу толькі на адно асьветчаньне, зробленае генэральным сакратаром «СЕД» Ульбрыхтам на прэсавай канфэрэнцыі ў Бэрліне 12 травеня. Ён, між іншым, заявіў даслоўна: **«Канцовым пунктам шляху, па якім ідзе Захад, будзе не захапленьне Уралу, але гэты канцовы пункт будзе перасунуты ў ваколіцы Остэнды.»**

Гэта ўжо адкрытая пагроза вайны. Паралельна з гэтай пагрозай ідуць прыгатаўленьні да блякады Бэрліна, актаў сабатажу, правакаваньня грамадзянскай вайны ў Нямеччыне й, што найважней, прымусовая мабілізацыя моладзі 1928-1932 гадоў нараджэньня ў рады ўсходнянямецкай камуністычнай арміі.

Пры гэтым нельга забывацца, што ўвесь гэты шум, які робіцца бальшавікамі вакруг Нямеччыны, гэта яшчэ толькі пачатак. Наступныя пэрыяды між падпісаньнем генэральнага дагавору зь Нямеччынай і ягонай ратыфікацыяй бонскім парлямантам, пазьней між ратыфікацыяй і ягоным ажыцьцяўленьнем — выстаўленьнем прадугледжаных ім дванаццаці нямецкіх дывізыяў для эўрапэйскай арміі, прынясуць бясспрэчна болей і больш грозных у сваіх выніках неспадзевак.

(Заканчэньне на 2 балоне)

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# У цэнтры увагі — Нямеччына

(Заканчэньне)

Усе гэтыя прынады Масквы на столькі адказваюць нямецкім зычэньням, што немцы ахвотна на іх згадзіліся-б навет коштам канчальнага замацаваньня сваей усходняй граніцы, што зьяўляецца адзіным, няпрыемным для іх, пунктам абедзьвюх савецкіх нотаў.

**НЯЗЬДЗЕЙСЬНЕНЫ МАНЭЎР ЗАДЗІНОЧАНЫХ ШТАТАЎ**

У сувязі з такой рэакцыяй на савецкія прапазыцыі значнай часткі насельніцтва Заходняй Нямеччыны Задзіночаныя Штаты хацелі прадпрыняць адпаведныя супрацьзахады. Пайменна, амэрыканскае прэсавае агенцтва «Асошыейтыд Прэс» паведаміла, што ЗША запрапанавалі Вялікабрытаніі й Францыі адбыць канфэрэнцыю «чатырох» у Бэрліне з мэтаю разгледзіць магчымасьці правядзеньня ў цэлай Нямеччыне вольных выбараў. У канфэрэнцыі мелі-б прыняць удзел заступнікі трох высокіх камісараў і заступнік Чуйкова.

Мэта ЗША была ясная. Нельга й думаць, што ЗША спадзяваліся, што такая канфэрэнцыя дасьць нейкія пазытыўныя вынікі. Амэрыканцам хадзіла пра тое, каб, прыціснуўшы саветаў да муру, змусіць іх адкрыць усе карты ў іхнай дыпляматычнай ігры й паказаць перад нямецкім насельніцтвам, які запраўдны зьмест хаваецца за савецкімі прыгожымі словамі.

Тымчасам прапанова гэтая нарабіла ў Лёндане й Парыжы ня мала клопатаў. На думку ўрадаў Вялікабрытаніі й Францыі, такая канфэрэнцыя зьяўлялася-б перадчаснай і згары асуджанай на няўдачу. Абедзьве гэтыя дзяржавы, якія заўсёды намагаюцца лагодзіць усходнязаходні канфлікт, папросту спалохаліся такой ігры, а таму пачалі высоўваць аргумэнты, што такая канфэрэнцыя зашкодзіла-б эўрапэйскай супольнасьці й адзінству Эўропы й самой Нямеччыны. Апрача гэтага яны ўважаюць, што гэтая канфэрэнцыя зьнішчыла-б магчымасьці скліканьня вялікай канфэрэнцыі міністраў замежных справаў чатырох дзяржаваў. Няўдача прапанаванай амэрыканцамі канфэрэнцыі прывяла-б, на думку гэтых дзяржаваў, да канчальнага разрыву між Захадам і Ўсходам.

У сувязі з нэгатыўным становішчам Ангельшчыны й Францыі, Амэрыка адмовілася апошнім часам ад сваей прапановы.

**А КАМУНІСТЫЯ ПАГРАЖАЮЦЬ НЕ НА ЖАРТЫ**

Да ўсей гэтай ігры вакол нямецкага пытаньня дзень 1 травеня прынёс новыя мамэнты. У гэты дзень прэзыдэнт Усходняй Нямеччыны Вільгэльм Пік, прамаўляючы на камуністычным мітынгу ў усходнім Бэрліне, заявіў, што: «калі ня ўдасца перашкодзіць мабілізацыі заходнянямецкай моладзі ў армію й небясьпека амэрыканскай вайны супраць Усходу павялічыцца, дык Усходняя Нямеччына будзе змушаная зарганізаваць собскія збройныя сілы». Гэтаксама й прэм'ер Усходняй Нямеччыны Гротэволь асьветчыў, што ў выпадку падпісаньня заходнянямецкай рэспублікай генэральнага дагавору з заходнімі дзяржавамі, Усходняя Нямеччына адкажа на гэты крок стварэньнем собскай арміі. Гэтую пагрозу ён паўтарыў у абвешчаным ім 9 травеня артыкуле ў маскоўскай «Праўдзе», апрача гэтага ён ня двузначна ў Бэрліне выказаў прыпушчэньне, што палітыка заходніх альянтаў і бонскага ўраду можа выклікаць дамашнюю вайну ў Нямеччыне.

Камуністычная пагроза на практыцы абазначала-б фактычна перайменаваньне існуючых ужо збройных сілаў Усходняй Нямеччыны, якія прыкрываюцца нявіннай назвай «народнай паліцыі», на армію. Тым ня меней аднак гэтыя афіцыяльныя заявы маюць сваю вымову.

Тымчасам кампанія за выстаўленьне ўсходнянямецкай арміі знаходзіцца ўжо ў поўным разгары. Згодна апошніх паведамленьняў, шляхам новага пакліканьня звольненых за апошнія гады «народных паліцыянтаў», аддзелы народнай паліцыі, якія твораць ядро нямецкай камуністычнай арміі, з 60.000 хутка маюць павялічыцца да 150.000 жаўнераў. А шляхам пакліканьня ахвотнікаў, якія галоўным чынам рэкрутуюцца з радоў нямецкай камуністычнай моладзі, — што таксама знаходзіцца ў поўным разгары — камуністыя спадзяюцца ўжо гэтай восеньню мець трохсоттысячную нямецкую армію.

У дадатак да ўсяго гэтага, савецкая контрольная камісыя й генэральны сакратар «СЕД» Ульбрыхт пагражаюць зьменай курсу й поўнай саветызацыяй Усходняй Нямеччыны ў выпадку падпісаньня генэральнага дагавору. Ульбрыхт заявіў усходнянямецкім партыям, што савецкая зона Нямеччыны будзе перамененая ў «народную дэмакрацыю» на ўзор сатэлітных дзяржаваў, пасьля чаго будзе спынены ўсякі рэгулярны рух між зонамі, а заходні Бэрлін будзе адрэзаны ад Захаду.

*

Гэтак прадстаўляецца на сяньняшні дзень змаганьне за Нямеччыну. У што яно ў далейшай сваей фазе выльецца, сказаць сяньня цяжка. Бяручы пад увагу тое, што Нямеччына зьяўляецца на столькі важным аб'ектам у сяньняшняй халоднай, як і ў будучай гарачай вайне, можна быць пэўным, што ані Ўсход ані Захад ня пойдуць у разьвязаньні нямецкага пытаньня на ніякія ўступкі. А таму ў сувязі зь Нямеччынай можа спаткаць нас не адна яшчэ неспадзеўка.

**(-іч)**

# Пытаньне гаспадарскіх вуніяў Беларусі

**ДРУКУЕЦЦА У ПАРАДКУ ДЫСКУСЫІ**

Украінцы, як відаць з дыскусыйнай прапановы др. Мірчука (глядзі артыкул «У справе Беларуская-Украінскай-Казацкай вуніі», друкаваны ў «Бацькаўшчыне» № 1-2 за 7 студзеня 1952 г.), ужо сяньня думаюць аб гаспадарскіх узаемадачыненьнях із сваімі суседзямі.

Прапанова Украінска-Беларуска-Казацкай вуніі ёсьць важнай рэччу для Ўкраіны, можа таксама й Казакіі, але, нажаль, яна даволі некарысная для Беларусі. Ужо на самым пачатку Беларусь будзе мець гаспадарскую страту ад такой вуніі, а ў ейным даўжэйшым дзеяньні — і пагатове.

Беларусь яшчэ даўжэйшы час будзе выключна земляробскай краінай, здадзенай на ўвоз тавараў хвабрычнага вытвараньня: машыны, абсталяваньне розных прадпрыемстваў і інш. За ўвоз трэба плаціць вывазам, бо плян Маршаля й падарункі «дзядзькі з за мора» ня толькі ня пэўныя, але й шкодна на іх спадзявацца, ня шукаючы собскіх крыніцаў даходу. Беларусь мае шырокія магчымасьці вывозіць хлеб і лес, потым мяса, малачарскія й драўесныя вырабы, мяса й паперу.

Таму гаспадарская вунія з Украінай абазначала-б задушэньне беларускага земляробства таней вытваранымі ў Украіне земляробскімі прадуктамі. Наш клімат і глеба ня могуць канкураваць з украінскімі. Нашае земляробства патрабуе большага ўкладу працы й штучных угнаеньняў. Нашыя сяляне ў выпадку такой вуніі будуць змушаныя кідаць сваю зямлю й наймацца белымі нэграмі на зямляробскія работы ў Украіне, як гэта ўжо мела месца перад вайной, калі дзесяткі тысячаў нашых сялян з Заходняй Беларусі кажны год выяжджалі на сэзонныя работы ў Латвію. Статыстычныя дадзеныя зь перад сусьветнай вайны паказваюць на вялікую колькасьць беларускіх сялян, што выяжджалі на заработкі ў Запарожжа й Адэсу, як і на колькасьць увожанага ў тры беларускія губэрні збожжа, якая, прыкладам, у 1910 годзе, дасягнула 100.000 тонаў.

Украіна патрабуе лесу. Але ў першыя гады перабудовы сваей прамысловасьці яна, як і Беларусь, будзе таксама патрабаваць увозіць машыны. Таму за наш лес зможам дастаць з Украіны толькі сырое зялеза й пшаніцу, якіх нам зусім ня трэба, бо хлеба Беларусь будзе мець і свайго даволі, а ўвозіць чыгун і вугаль, каб перарабляць на машыны ў Беларусі, ня будзе аплачвацца. А за лес, а навет за звычайнае жыта ня толькі зь Нямеччыны, але й з Ангельшчыны, а навет Амэрыкі мы зможам дастаць у танным выменным разьліку гатовыя высокаякасныя машыны, будаўляную сталь, электра-прылады. Сяньня Амэрыка ўвозіць мільёны тонаў паперы, і скарыстаньне яе расьце хутчэй за вытвараньне. Амэрыцы бясспрэчна будзе выгадней прадаваць надвытвараныя машыны за паперу зь Беларусі, чымсьці купляць яе за гатовыя даляры ў Канадзе.

Бязумоўна з украінцамі нас лучыць доўгае змаганьне за незалежнасьць і выпрацаванае ў гэтым змаганьні сяброў-

(Заканчэньне на 3 балоне)

# *Ці пагражае вайна?*

(Заканчэньне)

Дык чым-жа ўсё гэта можа скончыцца? Няўжо трэйцяя сусьветная вайна ўзапраўды няўхільная?

Апінія Захаду, хаця й лічыцца з павагаю сытуацыі, выключае аднак такую магчымасьць, прынамсі ў найбліжэйшым часе. Заходняя прэса разглядае пагрозы Ульбрыхта, як адзін із сродкаў, разьлічаных на тое, каб перашкодзіць уваходу Нямеччыны ў сыстэму эўрапэйскае абароны, аднак здае сабе справу з таго, што распачатая камуністымі кампанія застрашваньня значна завойстрыць халодную вайну. Захад аднагодна ўважае, што саветы яшчэ не гатовыя да генэральнай расправы, што мусяць яшчэ задаволіцца вядзеньнем вайны толькі чужымі рукамі, не ангажуючыся ў яе непасрэдна.

І запраўды, шмат якія сымптомы гавораць за тым, што Савецкі Саюз генэральнай пробы сілаў яшчэ баіцца. Але тым ня меней усё прамаўляе за тым, што новая сусьветная вайна, калі не цяпер, то ў недалёкай будучыні зьяўляецца няўхільнай. Супярэчнасьці між камуністычным Усходам і дэмакратычным Захадам зайшлі ўжо так далёка, што ніякім іншым спосабам зьліквідаванымі быць ня могуць. Больш таго! Развой дасюлешніх узаемадачыненьняў наглядна паказаў і ўсебакова абгрунтаваў, што два варожыя й сябе ўзаемна выключаючыя сьветы: камуністычны й дэмакратычны адзін побач з другім існаваць ня могуць.

**Язэп Каранеўскі**

# На землях Беларусі

**ЗЬНІЖЭНЬНЕ ЦЭНАЎ У САВЕЦКІМ САЮЗЕ**

Дэкрэтам савецкага ўраду й цэнтральнага камітэту ВКП(б) ад 1 красавіка сёлета былі ў Савецкім Саюзе зьніжаныя дзяржаўныя цэны на харчовыя прадукты масавага ўжытку. Гэта мае быць ужо пятае па ліку зьніжэньне цэнаў у СССР, на моцы якога важнейшыя харчовыя тавары патанелі ад 10 да 30%.

Савецкая, як нутраная, гэтак і вонкавая прапаганда, намагаецца як найшырэй выкарыстаць гэтую пастанову, каб паказаць перад сьветам і сваімі грамадзянамі, што ў той час, калі ў заходніх дзяржавах, у сувязі зь іхным збраеньнем і прыгатаўленьнем да агрэсыі, цэны ўсьцяж скачуць уверх, «міралюбны» Савецкі Саюз, клапоцячыся аб дабры працоўных, мае магчымасьць пайсьці на шырокае спатканьне іхным патрэбам. Дык і ня дзіва, што ўся савецкая прэса й іншыя сродкі прапаганды аж захлынаюцца ад захапленьня, падчыркваючы перавагу «сацыялістычнай» сыстэмы над капіталістычнай. Даволі прагледзіць толькі загалоўкі артыкулаў «Зьвязды» за 1, 2 і 3 красавіка, каб пераканацца аб гэтым. Там на передавых месцах газэты красуюцца такія крыклівыя загалоўкі: **«Яркае праяўленьне клопатаў аб савецкім народзе», «Будзем працаваць яшчэ лепей», «Калгаснае дзякуй партыі й ураду», «Сталінскія клопаты аб людзях», «Для шчасьця савецкіх людзей», «Вялікія перавагі савецкага ладу», «Дзякуем вялікаму Сталіну», «Адкажам стаханаўскай працай», «Гэта магчыма толькі ў нашай краіне»**, і так без канца ўсё ў падобным тоне.

Людзі, што жылі ў Савецкім Саюзе, вельмі добра ведаюць, што там яшчэ ня было такога закону ані ўрадавай пастановы, якія былі-б выкліканыя імкненьнем да палепшаньня лёсу працоўных. Калі-ж некаторыя пастановы й былі накіраваныя на палепшаньне палажэньня насельніцтва, як і апошняя пастанова аб зьніжэньні цэнаў, дык былі яны выкліканыя неабходнай канечнасьцю, а ня «бацькаўскімі клопатамі» Сталіна аб шчасьці працоўных.

Таксама й у дадзеным выпадку. Відаць пакупныя магчымасьці савецкіх грамадзян былі на столькі абмежаваныя, што партыя й урад былі змушаныя шукаць нейкага выхаду, былі змушаныя зьніжыць цэны, каб работнік за свой нячувана нізкі заработак мог хоць у прогаладзь стачыць канцы з канцамі.

Калі-б паказаць перавагу савецкага ладу над капіталістычным у галіне цэнаў, дык мала адных толькі працэнтаў, а трэба падаць вышыню заработку сярэдняга работніка, адлічыўшы заработак аднаго месяца ў годзе, які ён мусіць аддаць на «дабравольную» дзяржаўную пазыку, і падаць абсалютныя, а ня працэнтавыя цэны, і параўняць, сколькі савецкі работнік можа ў месяц купіць, прыкладам, мяса, масла, цукру й хлеба, а сколькі работнік капіталістычных краінаў. Аднак такіх наглядных і адзіна мерадайных вылічэньняў саветы не падаюць ніколі, бо яны паказалі-б гэтым усё залганьне сваей сыстэмы.

**БАЦЬКА СТАЛІН «КЛАПОЦІЦЦА» Й ПРА НАС**

Разглядаючы менскую «Зьвязду» за 20 лютага 1952 г., вочы нашыя раптам спыняюцца на крыклівым загалоўку: «Злачынства, якога не даруе чалавецтва». Зацікаўленыя, пачынаем чытаць зьмешчаны пад ім артыкул:

«Здаецца назаўсёды адыйшлі ў нябыт жудасныя часы сярэднявяковай інквізыцыі й гандлю нявольнікамі, забойствамі людзей бяз суду й сьледзтва, якімі пацяшалі сябе калісьці гітлераўскія «мокрых спраў майстры». Але не. Там дзе ступае сяньня нага амэрыканска-ангельскіх імпэрыялістых і іх стаўленікаў, там льецца чалавечая кроў, створаныя фашыстаўскія засьценкі й канцэнтрацыйныя лягеры...»

Згадайце, чытачы, над кім гэта лье кракадзілавыя сьлёзы бальшавіцкая газэта? Чыя гэта «льецца кроў» і для каго створаныя амэрыкана-ангельцамі «фашыстоўскія засьценкі й канцэнтрацыйныя лягеры»? Напэўна не згадаеце! А таму зацытуем далейшую частку артыкулу «Зьвязды», у якой знойдзеце разгадку:

«Хутка спаўняецца сем год з таго часу, як закончылася другая сусьветная вайна. Але й па сяньняшні дзень у нявольніцкіх лягерах для так званых «перамешчаных асобаў», у лягерах, якія чорным павуціньнем ахутваюць акупацыйныя зоны англа-амэрыканцаў у Заходняй Нямеччыне, томяцца тысячы савецкіх грамадзянаў. Многія нашыя суродзічы ў гады вайны былі вывезеныя фашыстымі на катаргу ў Нямеччыну. Катаваньнямі й байкамі аб мітычных «лягерах у Сібіры», схвабрыкаванымі дзяльцамі з «Голасу Амэрыкі» й «Бі-бі-сі», пропаведзямі бібліі й забойствамі «пры спробе да ўцёкаў» — тысячамі брудных сродкаў перашкаджаюць амэрыканска-ангельскія імпэрыялістыя звароту нашых грамадзян, нашых дзяцей на бацькаўшчыну, да сваіх сем'яў... Сотні савецкіх грамадзян гвалтоўна вывозяцца за акіян, дзе іх чакае немінучая сьмерць ад голаду й непасільнай працы.»

Камэнтары лішнія.

**(ар)**

ЯКУБ КОЛАС

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

**ПАЭМА**

(17)

XXI

**ТАЕМНЫЯ ГУКІ**

Пад іншы год у холад люты,
Калі ўсе рэчкі лёдам скуты,
І ўсё пад сьнегам качанее,
Глядзіш — цяплом табе павее,
І з поўдня вецер хмары гоніць.
У вокны дождж буйны зазвоніць
І з капяжоў руччом сьцякае
І сьнег жыўцом ён паядае.
Ськівае лес убор зімовы,
І шум другі на лад-сьпеў новы
Над борам цягне несканчона.
І фанабэрыцца варона:
«Вясна! вясна! гразь! гразь!» сьпявае,
Як-бы вясну ўжо сустракае.
Паміж алешніку зьмяёю
Крыніца чорнай паласою
На сьвет зірнула, лёд прабіла,
Ў старых карчох загаманіла
І пальсеелі касагоры,
Вадою поўняцца разоры,
Бяжыць, шуміць вада ў лагчынах,
І лёд уздуўся ў вазярынах,
Дарогі ў полі усе псуюцца,
Аб крыгі крыгі з шумам труцца.
І луг заліты ўвесь вадою,
Як і запраўднаю вясною.
Ды гэта толькі кпіны-жарты:
Зімой цяпла чакаць ня варта —
Зіма свайго не падаруе
І злосна ветрам засьвідруе
Ды так пацягне, так заграе,
Што проста нос табе зрывае.
І выюць ў полі завірухі,
Як за труною маладухі,
На лес накідваюць наміткі
І робяць гурбы ўвачавідкі.
Варона гонар свой збаўляе,
Ды зноў да сьметніку вітае
І свой жывот галодны пыніць,
На сьпевы дзюба не рашчыніць.
Дзярэўі ў белы пух убраны,
І сьнегам «лысіны» засланы;
Застылі рэчкі, азярыны
Пад гнётам белай кажурыны.
Лёд на лугох, як люстра, зьзяе,
І сонца зрэдка ў ім гуляе...
Настане ноч — і ўсюды ціха,
Хіба завые дзе ваўчыха
Сярод трушчобы ў цёмным лесе
Ды гучна лусьне гонта ў стрэсе...
Але што гэта? што за гукі?
Адкуль яны? чые то рукі
Забілі цяжка малатамі,
Як тыя коні капытамі?
Якія там майстры майструюць?
І што куюць? Над чым працуюць?
Сташ і ловіш зыкі тыя,
А луг трашчыць, гудзе і вые;
То рэзкі трэск там панясецца,
Бы чорт лазаты засьмяецца,
То заскавыча, то застогне,
Ды так, што ўсё, здаецца, дрогне;
Ня-то сякера мерна чэша,
Ня-то хтось кашляе ці брэша.
Гу-гу! — штось гукне, здрыганецца,
Бах-бах! — на гук той адзавецца,
І аж па лесе пойдзе рэхам
Ды зарагоча дробным сьмехам
То тут, то там ды як засьвішча —
Як-бы там чортава ігрышча!...
Ўсю ноч, ад рэчкі і па Нёман,
Ушыр, удоўж, нясецца гоман
Няўцямны, сьцішны і таемны
І разам страшны і прыемны.
А ноч ціхутка; ў багне цёмнай
Пустэлі страшнай і бязмоўнай
Гарацць дрыготна, зьзяюць зоркі,
Як найдарожшыя пацёркі,
То паасобку, то гурткамі,
То брыльянцістымі радкамі,
І іх пучочкі-злотаблёсткі
Наўкола кідаюць пялёсткі:
Яны гарацць, жывуць і граюць,
Бы вочкі там чыесь міргаюць;
Ды зрэдка ў небе дзесь далёка
Над лесам тым у момант вока
Мігнецца стужка агнявая —
То зьнічка згасьне залатая.
Вось выйдуць хлопцы гуртам з хаты
На гэты час, як неба шаты
Раськіне гожа над зямлёю
І вее згодаю сьвятою.
— Ша! ціха вы, не гаманеце!...
О, што-ж-та дзеіцца на сьвеце? —
І хлопцы разам заціхаюць
І на Алеся пазіраюць;
Алесь замёр, зьдзіўлены поўны.
Глядзіць у луг, стаіць бязмоўны,
У бок лугоў руку трымае.
— Во, во! што, чуеце? страляе!
— Што гэта, хлопцы? вось дык дзіва! —
Дарэктар шэпча палахліва: —
Няўжо зь Нясьвіжа б'юць гарматы? —
І Яська кінуўся да хаты.
— Ой, дзядзька, цётка! — ён галосіць,
І нейкі рух яго аж носіць: —
Ідзеце борзьдзенька, ідзеце.
Там штосьць грыміць, ну, паглядзеце! —
І так завойкаў, так завохаў,
Што ўсіх у хаце напалохаў.
— Ну, я табе, брат, мала веру:
Перабіраеш трохі меру, —
Антось на гэта адзаваўся,
Але на двор пашыбаваўся,
Кажух накінуўшы на плечы;
І маці прасьніцу да печы
Таксама ставіць, прысланяе,
На двор за імі выпаўзае.
Пасталі ўсе, стаяць маўкліва
І вухам ловяць тое дзіва.
А луг бубніць таемна, глуха,
Як-бы ў кадушку б'юць з-за вуха.
— А што, ці чуеце? то гэта? —
Дарэктар ціханька пытае;
Самога страх так і шугае.
— Эх, Яська, брат, ідзе камэта!
Прапалі мы — скончэньне сьвету! —
Антось гаворыць, ледзь ня плача: —
Прапаў ты, Яська, небарача,
І не пабачыш бацьку з маткай,
Хоць папрашчаўся-б з роднай хаткай:
Яе ўжо бачыць не надзейся!
— Не, дзядзька, што гэта, ня сьмейся, —
Антося хлопцы абступілі
І разам тут загаманілі.
— Ідзеце ў хату! — кажа маці: —
Калі ўжо гінуць — гінь у хаце. —
Адразу хлопцы схамянуліс,
Што ў нечым моцна абмануліс,
І стала болей ім цікава,

